


# Ахова птушак Бацькаўшчыны




www.ptushki.org

ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ | 2 (55) - 2014








# Першы і не апошні

**З выпуску мінулага бюлетэня АПБ прайшло паўгады. Гэтыя шэсць месяцаў былі багатыя на птушыныя навіны, сустрэчы і мерапрыемствы. Варта адзначыць: шмат чаго ў жыцці арганізацыі адбылося ўпершыню.**

АПБ упершыню слушна сказала свету, што займаецца праблемамі кажаноў. Напрыканцы жніўня ў музейным комплексе Дудуткі адбыўся фестываль «Ноч кажаноў». Мы пераканалі шмат людзей, што гэтыя жывёлы насамрэч мілыя і нават карысныя чалавеку. Разам спявалі песні, танчылі, глядзелі дакументальны фільм і рабілі сваімі рукамі ўсмешлівых кажаноў з воўны, флікернай паперы ды гліны.

Таксама ўпершыню, але з вялікім размахам пачалі кастрычнік з першага ў Беларусі чэмпіянату па фотабёрдынгу. Мы чакалі на пілотнае мерапрыемства чалавек 15, а прыйшло 53 удзельніка. Аматары фота цягам пяці гадзін шукалі птушак у Лошыцкім парку і былі вельмі ўражаныя, што ў шумным двухмільённым Мінску іх існуе столькі! Дарэчы, падчас чэмпіянату адбылося яшчэ адно «упершыню»: Валерый Каваленак зрабіў фотарэгістрацыю чорнагаловага рагатуна ў сталіцы.

У першы раз на чэмпіянаце па спартыўнай арніталогіі каманда здолела налічыць 120 відаў птушак за 12 гадзін беспераппыннага спаборніцтва. Такім чынам, «Арлы і стрынаткі» (Дзяніс Кіцель, Ганна Трафімчук, Настасся Кузьмянкова, Стас Верталь) перамаглі і ўсталявалі новы рэкорд. Ці ўтрымаецца лічба, даведаемся ў верасні 2015-га.

Упершыню столькі ўвагі было нададзена «Лябжаму» – адзінаму ў Беларусі заказніку рэспубліканскага значэння ў межах горада. Прыродаахоўныя мерапрыемствы для птушак, прыбіранне смецця, больш за 40 экскурсій для школьнікаў, фотавыстава, матэрыялы для настаўнікаў, відэатрэнінг па арганізацыі і правядзенні экскурсій, буклеты пра птушак і расліны заказніка, тры новыя інфармацыйныя стэнды – гэта далёка не поўны спіс таго, што з'явілася дзякуючы праекту «Лябжыы».

Фестываль кулікоў у Тураве прайшоў ужо пяты раз, але ўпершыню восенню. Напрыканцы верасня атрымалася ўбачыць не так шмат птушак, як майскімі днямі, затое АПБ прывезла ў арніталагічную Мекку Беларусі новыя майстар-класы і конкурсы. І семінар па выніках кіравання Тураўскім лугам. Дарэчы, у 2014 годзе акрамя двух валанцёрскіх летнікаў АПБ ратаваць яго ад зарастання дапамагалі каровы з мясцовых гаспадарак.

Вялікае адкрыццё восені 2014-га – першая сустрэча на Беларусі пячураўкі-зарнічкі. Арнітолаг Дзяніс Кіцель адзначыў (сфатаграфаваў і акальцаваў) гэтую птушку на самым поўначы краіны. У 2015 год пячураўка-зарнічка ўваходзіць яшчэ без рэгістрацыі ў Беларускай арнітафауністычнай камісіі, але спадзяемся на хуткае зацвярджэнне віда. Таксама чакаем ў 2015-м рэгістрацыі новых птушак! Па меркаваннях дасведчаных арнітолагаў, ёсць дастаткова шанцаў знайсці ў Сінявокай індыйскую чаротаўку і стрынатку рэмез. Таму спрабуйце ў новым годзе!

Упершыню АПБ пайшла на ўсход так масава, з новым доўгатэрміновым праектам, якому прысвечана старонка 3.

Цягам апошняга паўгоддзя ў АПБ з'явіліся і новыя супрацоўнікі. Прычым чатыры! На гэтым рост арганізацыі не спыняецца, старт новых праектаў хутка дадасць у каманду яшчэ некалькі чалавек. Таму ў 2015 годзе працаваць разам для прыроды і людзей будзе яшчэ больш людзей.

Як традыцыйныя акцыі, так і мерапрыемствы з катэгорыі «упершыню», няпоўны спіс якіх змешчаны на гэтай старонцы, былі бы немагчымымі без вас, сябры АПБ. Мы адчуваем вашу падтрымку кожны дзень, радуемся вашым лістам і званкам. Дзякуй за неабыякавасць і адданасць дзікай прыродзе Беларусі!

Дома ўжо ўсталяваны елкі і назапашаны мандарыны. Хутка ўсе пачнуць сустракаць Год казы. А мы, птушкалюбы, будзем святкаваць Год вушатай савы. І ў нас – агульнае жаданне: заставацца ў 2015-м са старымі сябрамі і знайсці новых аднадумцаў. І абавязкова быць здаровымі, каб кожны дзень чуць птушыныя спевы і разам працаваць для захавання прыроды.

**Дзякуй за тое, што вы былі з намі ў 2014 годзе. Заставайцеся разам з АПБ і ў 2015-м. З Новым годам, сябры!**

З найлепшымі пажаданнямі,
ваша АПБ

# Жаркие лето и осень АПБ



## Свіслач: больш за 120 відаў птушак, 280 відаў раслін!

На працягу года Гродзенскае абласное аддзяленне АПБ рэалізоўвала праект па захаванні даліны ракі Свіслач – тэрыторыі, важнай для птушак на гнездаванні, падчас вясновых і восеньскіх міграцый, зімоўкі, а таксама месца вегетацыі рэдкіх раслін. Увесь гэты ўчастак – поймены водна-балотны комплекс з прылеглымі землямі плошчай каля 5 000 гектараў, які плануецца зрабіць заказнікам.

Для дадзенай тэрыторыі адзначана больш за 120 відаў птушак, сярод якіх 34 занесены ў Чырвоную кнігу РБ, і 280 відаў раслін, два з іх – пад пагрозай знікнення. Галоўная мэта – збор навуковых дадзеных для стварэння біялагічнага заказніка. У рамках праекта праводзіліся штотыднёвыя палявыя даследаванні і ўлікі птушак. Да экскурсій далучаліся сябры аддзялення, фатографы, журналісты, настаўнікі і вучні мясцовых школ. Адной з мэтаў было данесці да мясцовага грамадства ідэю важнасці захавання прыроды. Для гэтага правялі некалькі семінараў для настаўнікаў школ, землекарыстальнікаў, органаў улады, рэгіянальных прыродаахоўных устаноў. Таксама адбыўся палявы летнік, удзельнікі якога азнаёміліся з методыкамі назірання і ўліку птушак. Упершыню для Гарадзеншчыны ўсталявалі інфармацыйныя шыльды пра прыродную каштоўнасць Нёманскай Свіслачы.

Праект фінансаваўся Рэгіянальным экалагічным цэнтрам для Цэнтральнай і Усходняй Еўропы (REC) па праграме «СЕКТАР» пры падтрымцы ўрада Швецыі.

Таццяна Смыкоўская,
дырэктар Гродзенскага абласнога аддзялення АПБ.
Фота аўтара.

## В Бресте появилась первая в городе экотропа!

Какие деревья растут в городе и кто на них живет? Как помогать братьям нашим меньшим? Чему человек учится у природы? Найти ответы на эти и другие вопросы можно во время прогулки по экологической тропе «Дикая природа в городе Бресте».

Наблюдать за дикой природой можно не только в национальных парках или заповедниках. Очень часто животные и растения – наши соседи в городе. Брест в этом смысле – настоящий кладезь: в черте населенного пункта можно встретить много не только привычных, но и охраняемых видов.

Чтобы познакомить местных жителей с дивной природой, интересно рассказать о редких видах и законах, по которым они живут в естественной среде, создана



экотропа «Дикая природа в городе Бресте». Прогулка рассчитана на один час. На пути вас ждет десять остановок, на каждой из них расскажут много интересного о местной флоре и фауне. Закрепить знания можно, разгадывая задания-кроссворды, шарады и ребусы.

Как найти экотропу? Записывайте адрес: ул. Шоссейная, 10 (отдел «Агробиология» центра экологии БрГУ им А. С. Пушкина). Приглашаем всех желающих познакомиться с дикой природой Бреста, насладиться тишиной и спокойствием на организованных экскурсиях или индивидуально!

Экологическая тропа создана в рамках совместного проекта Брестского областного отделения АПБ и экологичекого товарищества «Зеленая свобода» – «Охрана природы и экологическое образование в городской среде» при финансовой поддержке правительства США.

Андрей Абрамчук,
Брестское областное отделение АПБ.
Фото Юрия Бакура.

**34 445 птиц**
**117 видов**
– именно столько пернатых удалось увидеть 1 744 белорусам 4-5 октября во время EuroBirdWatch-14. В тройке самых отмечаемых – грач, галка и скворец обыкновенный. Всего за осенней миграцией следили более 23 000 любителей птиц из 40 стран Европы и Центральной Азии. Беларусь вошла в пятерку лидеров по количеству наблюдений.

## Субботний клубный проект в Слуцком районе



Многие знают, что в Слуцком районе накоплен большой опыт клубной работы, которую курирует ГУО «Слуцкий эколого-биологический центр учащихся». Местное отделение АПБ разработало и реализует проект, выводящий деятельность организации на новый уровень. В творческой группе по реализации – все орнитологические клубы района, собирающиеся раз в месяц на базе Центра.

Участие в проекте позволяет познакомиться с единомышленниками, освоить интерактивные формы экологической работы. Календарный план составлен с учетом мероприятий АПБ.

Суббота – важный день экологического образовательного пространства. Все 15 участников проекта региона встречаются именно по субботам.

4 октября на базе Центра прошел семинар-тренинг «Прощай, товарищ-птица!», где 36 участников районных клубов «Крылатый дозор» с руководителями познакомились с перелетными и зимующими видами, узнали об особенностях сезонных миграций, а во время интерактивных игр изучили видовой состав и внешний облик перелетных птиц. Семинар приурочили к Европейским осенним дням наблюдений за птицами. А 22 ноября в рамках Орнитологической мастерской прошли два мастер-класса, в которых приняли участие 20 ребят из пяти клубов «Крылатый дозор». Школьники познакомились с разными бумажными техниками и своими руками изготовили небольших пернатых в техниках айрис-фолдинга и вытинанки.

Юные орнитологи вновь собрались 13 декабря на экологическом турнире «Зимующие птицы». До встречи на новых мероприятиях Случчины!

Тамара Коледа, председатель Слуцкого районного отделения АПБ.

## Лошицкий парк – под крылом АПБ!

В августе Минский городской Совет депутатов закрепил парки и скверы города за общественными организациями. Теперь у АПБ – два подопечных: Лошицкий усадебно-парковый комплекс и соседняя зеленая зона между улицей Якубова и рекой Свислочь. Что мы будем делать в Лошице?

Часто на исход проблемных ситуаций в парках города влияет именно временной фактор: чем раньше замечена опасность, тем быстрее можно ее решить, не навредив окружающей среде. Связанные с природоохранной деятельностью организации ускоряют данный процесс, обращают внимание городских властей и общественности на многие проблемы.

Выбор места охраны неслучаен. Именно в Лошицком парке можно встретить множество редких птиц, в том числе таких краснокнижников, как зимородок, коростель, малая выпь, пустельга. Это прекрасное место для проведения традиционных «Соловьиных вечеров с АПБ» и Европейских дней осенних наблюдений за птицами.

Так что теперь Лошицкий парк и зеленая зона на Якубова – под надежным крылом АПБ! На весну планируем множество традиционных акций и новинок. Следите за объявлениями!

Виктория Терешонок,
информационный сотрудник АПБ.



Фото – Руслан Завадич








# «Объединяясь вокруг природы» – это...



**Екатерина Присяжнюк,**
менеджер проекта:

«Объединяясь вокруг природы» - эколого-образовательный проект, который поможет лучше узнать окружающую среду и понять ее важность для жизни людей. Но просто повышения экологической грамотности недостаточно. Проект предлагает в том числе и полевой опыт – наблюдение за птицами и природой. Совместно с учителями школ и педагогами вузов мы попытаемся выйти за рамки теоретических рассуждений и окунуться в мир практических исследований, общественных акций и кампаний. Школьники и студенты смогут помочь природе так, как смогут и захотят. Присоединяйтесь и вы!



**Филипп Бернар,**
атташе, координатор программ сотрудничества Представительства Европейского союза в Республике Беларусь:

Для проектов ЕС в Беларуси охрана окружающей среды – один из приоритетов. Мы стремимся поддерживать весь спектр работы в данной сфере: возобновляемая энергетика, зеленая экономика, экологическое просвещение и другие направления. В ходе работы стараемся задействовать местных жителей: без сотрудничества с населением эффект куда ниже. Поэтому в проекте «Объединяясь вокруг природы» так много сил направлено на работу с обществом. Уверен: по итогам проекта в 2017 году мы покажем высокие результаты!



**Ирина Богачева,**
начальник управления учебно-методической работы Академии последипломного образования:

У нас есть опыт сотрудничества по проектам, финансируемым ЕС. Благодаря этой поддержке появились факультатив «Дикая природа Беларуси» и «Зеленые школы». Уже 47 белорусских учебных заведений имеют соответствующие дипломы. Деятельность АПБ – неотъемлемая часть «Зеленых школ». Проекты данной организации полностью соответствуют государственным требованиям. «Зеленая школа» – это не дипломы и победы в конкурсах. Это такое положение дел, когда каждый ученик экологически образован, заботится о природе и знает, как жить в гармонии с ней. Будем очень рады, если регионы Гомельской и Могилевской областей благодаря новому проекту присоединятся к нам. Спасибо за поддержку экологического образования!

**Проект направлен на повышение экологического сознания и вовлечение в природоохранную деятельность жителей Могилевской и Гомельской областей, затронутых последствиями аварии на ЧАЭС.**

## Цели проекта:

– повысить экологическое сознание населения Гомельской и Могилевской областей;
– вовлечь население в природоохранную деятельность;
– укрепить потенциал местных сообществ и учреждений образования, формировать стиль жизни, неотъемлемой частью которого является наблюдение за природой;
– создать районные сети по изучению и охране природы.

**Сроки реализации:** сентябрь 2014 – январь 2017
**Донор:** Европейский союз

## Проектные регионы:




**Могилевская область** (Белыничский, Костюковичский, Чаусский, Быховский, Горецкий районы)
**Гомельская область** (Гомельский, Мозырьский, Хойникский, Туровский, Чечерский районы)

## Местные сообщества:

– создание инициативных групп местных жителей, занимающихся вопросами охраны природы;
– серия тренингов для активистов по вопросам охраны природы и ее защиты;
– в помощь – определительные таблицы, полевой определитель растений и животных;
– самым активным инициативным группам – бинокли и фотоаппараты.

## Школы:

– развитие региональных сетей школьных клубов АПБ «Крылатый дозор», фестиваля школьных клубов, серии тренингов для учителей, самым активным – бинокли и фотоаппараты!;
– установка информационных стендов, обустройство мест наблюдений в каждом проектном регионе;
– изготовление и распространение информационных материалов: буклетов, плакатов, бюллетеней, закладок, открыток, наклеек, значков;
– передвижные фотовыставки на природоохранную тематику.

## Университеты:

– создание и работа в местных вузах студенческих групп, вовлеченных в природоохранную деятельность, установка информационных стендов в университетах;
– волонтерские полевые семинары для решения проблем охраны природы.

## Фестиваль куликов в Турове

Уже 1 мая жители Турова и окрестностей, экологи, орнитологи и десятки иностранных бердвотчеров соберутся на фестиваль куликов – удивительных птиц, находящие приют и корм на ТВП международного значения «Туровский луг». Вас ждут выступления школьных команд с «куличиными приветами», спортивные конкурсы, живая музыка, мастер-классы по изготовлению птичек-магнитов и фликеров. И, конечно, наблюдение за птицами!

## Фестиваль сизоворонки в Гроново

Сизоворонка – причудливая птица размером с голубя цвета попугая в голубовато-ржаво-черных тонах. Еще 20 лет назад – обычный для Беларуси вид, сейчас – в первой категории охраны. Одно из немногих селений, где еще можно встретить сизоворонку, – местечко Гроново в Чериковском районе на Могилевщине. Именно поэтому здесь проведут фестиваль. Мы расскажем местным жителям об этой удивительной птице, вместе построим для нее искусственные гнездовья и поищем ее в окрестных лесах.

## Чемпионат по фотобердингу в Гомеле

Фотобердинг, или фотографирование птиц, интересное экологически дружественное хобби, которое пришло в Беларусь из Европы и Америки и с каждым годом становится все популярнее. Мы приглашаем всех желающих принять участие в увлекательной пятичасовой гонке по гомельскому парку. Успейте щелкнуть затвором, пока не вылетела птичка! А пока тренируйтесь до апреля фотографировать птиц и определять их вид.

Виктория Терешонок, информационный сотрудник АПБ

# Вушатая сава – птушка 2015 года!


Фота – М.Габлер


Фота – А.Пінгстан


Фота – Г.Міндлін

**Вітаем саву, гаспадыню 2015 года! Эстафету ёй перадае зязюля звычайная.**

**Нацыянальную кампанію "Птушка года" АПБ праводзіць з 2000 года. Галоўная мэта – паказаць хараство прыроды і прыгажосць птушак, данесці неабходнасць клопату пра іх і разам прыняць меры па іх захаванні. Дарэчы, такія кампаніі праходзяць у большасці краін свету.**

**Якім чынам абіраюць птушку года ў нашай краіне? У Беларусі зарэгістравана болей за 320 відаў птушак, але не ўсе разглядаюцца ў якасці кандыдатаў. У конкурсе ўдзельнічаюць тыя, што гняздуюцца ў нашай краіне, дастаткова добра распаўсюджаныя тут і вядомыя насельніцтву. Таксама ўвага надаецца відам, якім патрэбна дапамога з-за праблем, выкліканых дзейнасцю чалавека.**

**Звычайна кандыдатаў некалькі. У гэтым годзе кандыдатамі на Птушку года 2015 сталі сіняя сініца, сава вушатая, цецярук, баталён. Канчатковае рашэнне прымалася ўдзельнікамі З'езда АПБ у студзені. Усяго некалькі галасоў вырашылі лёс птушкі года і пакінулі сінюю сініцу на другім месцы.**

### 15 птушак года ў Беларусі:

2000 – белы бусел, 2001 – белая пліска, 2002 – авяльга, 2003 – дамавы верабей, 2004 – гарадская ластаўка, 2005 – барадатая кугакаўка, 2006 – кнігаўка, 2007 – звычайны салавей, 2008 – вялікая белая чапля, 2009 – шэрая гусь, 2010 – сокал-пустальга, 2011 – вялікі кулён, 2012 – чорны свіргуль, 2013 – удод, 2014 – звычайная зязюля.

## 10 цікавых фактаў пра саву вушатую

1. Пазнавальныя "вушкі" у птушкі не для таго існуюць, каб слухаць. Сапраўдныя вушы не проста ўбачыць, яны схаваныя пад пер'ем.
2. Гэта адна з 11-ці відаў соў, што гняздуюцца ў Беларусі.
3. Па звестках кальцавання, самая старая вушатая сава пражыла 29 гадоў і 9 месяцаў.
4. Гэтая птушка можа паварочваць галаву на 270 градусаў.
5. Як і іншыя віды соў, вушатая не будуе гнязда. "Арэндадаўцамі" выступаюць крумкачы, шэрыя вароны, гракі і сарокі. Не так важная вышыня размяшчэння гнязда, як месца: яно павінна быць добра схавана ў густой кроне дрэва.
6. Вушатая сава з вялікай ахвотай засяляе штучныя гнёзды.
7. У Беларусі гэтая птушка зімуе. Цікава, што на месцах зімовак совы збіраюцца шматлікімі кампаніямі. Чароды па 8-12 птушак – звычайная з'ява, але здараецца, што ў адным месцы апыняецца да 30-ці і болей асобін.
8. Сава вельмі нагадвае зменшаную копію пугача сваімі вострымі "вушкамі" з пер'я рознай даўжыні і яскрава-памяранцавай афарбоўкай радужнай абалонкі вока.
9. Ворагаў у савы вушатай няшмат. Найбольшую небяспеку stварае шулякгалубятнік, не супраць пачаставацца жыхарамі гнязда і куніца.
10. У лапы да птушкі трапляюць мышападобныя грызуны, асабліва шэрыя палёўкі. Каб схапіць адну ахвяру, саве трэба зрабіць па 2-3 кідкі. Пры моцным ветры ці дажджы эфектыўнасць палявання зніжаецца ў 2-3 разы.

## Сава – папулярная!

Што прынясе на сваіх крылах сава вушатая?

Сумесна з Нацбанкам і "Белпоштай" плануецца традыцыйны выпуск манеты і маркі з выявай птушкі года. На працягу года шукайце ў нашых сацсетках адмысловыя віктарыны, звязаныя з савой.

Сябры клуба АПБ "Рэдкая птушка" патрапяць на сапраўдную савіную экскурсію.

Самых маленькіх удзельнікаў кампаніі чакаюць конкурсы малюнкаў, вершаў-чатырохрадкоўяў, фотаконкурс вырабаў з прыродных матэрыялаў і іншыя цікавыя падзеі! Палажэнні конкурсаў у хуткім часе з'явяцца на афіцыйным сайце АПБ.

## Сава – пад аховай!

У 2015 годзе адбудзецца пошук месцаў гнездавання птушкі, вывешванне штучных гняздоўяў.

– Вушатыя совы не будуюць хаткі самастойна. Гэтыя птушкі займаюць гнёзды крумкачовых, такіх як грак, шэрая варона, сарока, крумкач. Там, дзе няма прыдатных месцаў, совы не селяцца. Наш досвед паказва: менавіта гэтыя птушкі добра адгукаюцца на біятэх-нічныя мерапрыемствы – займаюць штучныя гняздоўі, якія робіць і ўсталёўвае чалавек. У год вушатай савы АПБ будзе ладзіць шмат акцый па будоўлі такіх хатак. Запрашаем – навучым усіх жадаючых! – дзеліцца планамі спецыяліст па прыродаахоўных пытаннях АПБ Сямён Левы.

У кожнага будзе магчымасць пабудаваць штучныя гняздоўя для савы падчас летнікаў і майстар-класаў. Рыхтуецца шэраг даведачных матэрыялаў пра вушатую саву, у тым ліку ў падтрымку інфармацыйнай кампаніі супраць збору птушанят, што выляцелі з гнязда. Далучайцеся!

Дарэчы, сава ахоўваецца Бернскай канвенцыяй, якую падпісала і Беларусь.

### Дзе ты жывеш, сава?

Вушатая сава – даволі пластычны від, у нашай краіне можа жыць у розных біятопах: хмызняковых прыбярэжных зарасніках, ветраахоўных лесапалосах, астраўных лясах сярод аграўгоддзяў, ускрайкавых ўчастках хваёвых і радзей ліставых лясоў, садах, парках і алеях.

## Гняздо для савы? Лёгка!

Як вядома з п. 5 нашых цікавых фактаў, вушатыя совы не будуюць гнёзды самастойна. Таму дэфіцыт ў жыллі – немаленькі. Хочаш дапамагчы саве? Зрабі штучнае гняздоўе ў выглядзе драўлянай скрыні ўжо зараз! У якасці падказкі – наша пакрокавая інструкцыя.

**Матэрыялы і што з імі рабіць**

Вам спатрэбіцца дошка таўшчынёй ад 1,5 см і шырынёй 14-16 см (лепш за ўсё – сасновая). Даўжыня боку скрыні – 30 см.


Фота – В.Казлоўскі


Фота – Г.Міндлін


Фота – Mdf


Фота – Н.Артура

## Не блытай нас!

**1.** Кугакаўка шэрая.
Неясыть серая. Strix aluco.
**2.** Пугач. Филин. Bubo bubo.
**3.** Сыч вераб'іны.
Сыч воробьиный.
Glaucidium passerinum.
**4.** Вушатая сава. Ушастая сова.
Asio otus.
**5.** Сыч касматаногі.
Сыч мохноногий. Aegolius funereus.
**6.** Сава балотная.
Сова болотная. Asio flammeus.
**7.** Сыч-сіпель. Сыч домовый.
Athene noctua.

## Чаму сава залежыць ад крумкача?

Від знаходзіцца ў моцнай залежнасці ад птушак сямейства крумкачовых (сарока, грак, крумкач, шэрая варона), хаткі якіх займае. У месцах, дзе гнёздаў няма, лёгка засяляецца ў "апартаменты", зробленыя чалавекам.

Бакавыя сценкі збіваюцца ўнахлёст. Дно робіцца з дошак меншай шырыні, ад краю сценкі і паміж дошкамі дна неабходна пакінуць прамежак 0,5-1 см. Без рамонту скрыня можа вісець каля пяці (максімум сямі) гадоў. Каб захаваць дошкі, варта пакрыць алейнай фарбай альбо лакам цёмнага колеру.

**Дзе і як павесіць**

Выбірайце дрэва (пераважна сасна або іншае хваёвае) здаровага выгляду з масіўнай кронай. Гняздоўе трэба ўсталяваць на бакавых галінах, якія растуць паралельна зямлі і могуць вытрымаць дошкі не згінаючыся. Фіксуйце хатку ў трох месцах алюмініевым дротам. Посцілка гнязда – дзірван, апалая хвоя, сухое лісце і трава, дробныя галінкі, мох. Шчыльна пакладзіце ўсё даверху, у цэнтры зрабіце невялікі ўціск накшталт латка. Вешаць лепей на 3-12 м ад зямлі. Для ўласнай бяспекі лезці на дрэва лепш са страховачным поясам і не аднаму.

Калі скрыня вешаецца у населеным пункце альбо паблізу ад яго, неабходна выбраць групу дрэў на некаторай адлегласці ад любых пабудоў чалавека. Лепш, калі ўнізе маецца падрост з хмызняку, а траву не косяць. У першую чаргу варта падумаць пра бяспеку першага тыдня для савят. Вядомыя выпадкі, калі птушаняты станавіліся ахвярамі хатніх жывёл (катоў і сабак), ці былі раздушаныя машынай. Па-за населенымі пунктамі ідзіце на ўскраіну лясных масіваў.

**Калі і як правяраць гнездзішча**

Калі чуеце "спевы" савы, хатка занятая. Звычайна самка крычыць непасрэдна з гнязда, у якое збіраецца адкладаць яйкі. З канца лютага і ўвесь сакавік гадзіна пасля заходу сонца – лепшы час для праслухоўвання савы ў Беларусі. Сведчаннем знаходжання птушак могуць быць пагадкі (неператраўленыя камячкі костак і поўсці ахвяр), якія яны звычайна выплёўваюць. Паглядзіце на зямлі пад дрэвамі.

На поўдні краіны совы могуць пачынаць гнездавацца ў першай палове сакавіка, яйкі адкладаюць у канцы сакавіка – пачатку красавіка, на поўначы Беларусі – у красавіку. Калі ісці ў лес? У пачатку гнездавання совы менш за ўсё прывязаныя да хаткі і могуць лёгка з яе высяліцца, пабачыўшы чалавека. А вось яйкі і птушанят яны не кідаюць. Тым не менш, у гэты перыяд таксама лепш адмовіцца ад праверак. Чатыры тыдні доўжыцца наседжванне яек, яшчэ тры птушаняты праводзяць у гняздзе. Падлічваем – і атрымліваем, што маніторынг варта адкласці да пачатку траўня. У гняздоўі, дзе былі птушаняты, застаецца поўсць і косткі ахвяр, а таксама белыя камякі савінага памёту.

На пачатку новага перыяду ў гняздоўе лепш пакласці свежую посцілку.

**Поспехаў вам і ўтульных хатак совам!**

Падрыхтавалі Карына Салавей, Вікторыя Церашонак, Дзяніс Кіцель





Фота – Дзяніс Кіцель

# «Природа важна для всех. Укрепление охраны природы через развитие лидерства и участия местного населения в процессе принятия решений на местном уровне».

## «Хранители – это наши руки, ноги и глаза»

Практика показывает, что у людей есть желание вносить свой вклад в сохранение мест, к которым они привязаны эмоционально. Но они не знают, как это сделать или просто ждут толчка, некой отмашки. Как раз таким хорошим стартом становится участие в программе Хранителей Территорий, важных для птиц (ТВП).

Кто такой Хранитель ТВП? Понятие включает широкий круг людей, которые в силу профессии, увлечений или места проживания могут наблюдать за ситуацией на определенной природной территории и сообщать о возникающих угрозах и готовы действовать для сохранения территории.

Для многих подобные территории – места сбора ягод и грибов, рыбалки. Но часто эти земли просто дорогие сердцу, никакой материальной выгоды люди не получают.

Сеть Хранителей ТВП начала создаваться с 2009 года. В первую пятерку вошли Болото Ельня, Налибокская пуща, Выгонощанские болота и Споровские болота, а также Болото Званец. Данные территории уже прошли пятилетний путь развития под присмотром хранителей. Теперь наработки первопроходцев помогут создать сети в других важных местах.

Еще пять территорий появятся в рамках нового проекта «Природа важна для всех. Укрепление охраны природы через развитие лидерства и участия местного населения в процессе принятия решений на местном уровне». Он реализуется АПБ при поддержке Министерства природных ресурсов и охраны окружающей среды Республики Беларусь и финансируется Европейским союзом. Период реализации: 1 сентября 2014 – 31 сентября 2016. Главные действующие лица проекта – местные жители. Успех полностью зависит от их активного участия.

Территории отбирались по значимости для биоразнообразия, наличию глобально угрожаемых видов. Также внимание обращалось на уязвимость: не все проектные территории входят в систему ООПТ, что делает их незащищенными. А ведь они значимы не только для Беларуси, но и для всей Европы, - рассказывает о критериях отбора сотрудник АПБ по природоохранным вопросам Ольга Лукшиц. – У нас не получается наблюдать за территорией каждый день, а вот местный житель может это делать. Если что-то происходит, он тут же сообщает. Хранители – наши руки, ноги и глаза на местах.

В помощь проекту будет выпущена печатная продукция: руководство для хранителя, буклеты о каждой территории, справочник охраняемых видов и мер по их охране, каталог ТВП. Также появятся информационные стенды в школах и на самих природных территориях. Будет проведена серия тематических тренингов для желающих стать Хранителем, а самые активные смогут получить в пользование полезное для Хранителя оборудование: бинокли и GPS навигаторы.

### Как стать хранителем?

Если вы хотите стать хранителем ТВП, то:

**1.** Спасибо!

**2.** Зайдите на сайт **www.iba.ptushki.org**, найдите территорию, где расположена ваш дом/дача/где собираете грибы, прочитайте о ее хранителях, присоединяйтесь к ним или станьте первым хранителем.

**3.** По всем вопросам звоните в офис АПБ: (017) **263 06 13**, (29) **223 06 13**, (29) **101 68 87**

**Проектные территории:**

**Козьяны** (Витебская область) – крупный комплекс верховых болот. Находится недалеко от Ельни, поэтому успешный опыт данной территории можно перенести на Козьяны: проблемы природных комплексов схожи. В этих местах обитает чернозобая гагара, краснокнижный вид. Птица очень чувствительна к беспокойству в период гнездования и минимизировать эту угрозу вполне по силам с участием Хранителей.

**Гроново** (Могилевская область) – довольно маленькая, но при этом значимая ТВП. Именно здесь сохранилась самая большая в стране колония сизоворонок, также есть дупелиный ток. Эти птицы находятся под угрозой исчезновения, особенно остро – сизоворонки. Есть планы провести большую просветительскую работу, рассказать местным жителям, как организовать образ жизни так, чтобы не дать исчезнуть редким видам по соседству. Здесь существует угроза зарастания мест обитания птиц, что тоже можно решить на локальном уровне.

**Пойма реки Сож** (Гомельская область) – участок, где птицы останавливаются во время весенней миграции, (прежде всего гуси и различные ржанкообразные виды). У всех пойм рек схожие проблемы: зарастание растительностью, повышенная антропогенная нагрузка. Соседний Гомель, с одной стороны, опасен для территории несознательными отдыхающими, но с другой – дает возможность набрать в крупном областном центре новых Хранителей.

**Пойма реки Лесная** (Брестская область) – место остановки птиц во время миграции, а также – гнездования коростели и большого веретенника. Беспокойство птиц вызвано близким расположением к Бресту и увеличивающимся антропогенным воздействием. Важно привлекать сюда граждан не на шашлыки и пикники, а в качестве Хранителей.

**Болото Споровское** (Брестская область) – уникальное низинное болото, одно из значимых мест для сохранения вертлявой камышевки. Также здесь встречаются колонии чайковых и других водно-болотных птиц. Ценность Споровского для биоразнообразия Беларуси – на первых местах по всей стране. Эта и другие территории ценны не только птицами. Например, здесь обитает болотная черепаха, которую многие, едва увидев, спешат унести домой. Хранители расскажут, почему нельзя ее трогать и как сохранять места ее обитания.




## Я – хранитель!

**Эти люди могут с гордостью сказать «Я – хранитель!». Правда, они не заявляют об этом громогласно, а тихо, год за годом выполняют свое дело. Мы задаем им лишь один вопрос: «Почему вы хранитель?».**



**Евгений Липский**,
хранитель болота Ельня:

– В болоте есть нечто особенное, что отличает его от мест, где живет большинство людей. Оно очень интересно мне как художнику. Приходишь – и попадаешь в другой мир, это дорогого стоит. Нельзя сказать, сколько нужно хранителей для Ельни. Тут дело скорее не в количестве, а в качестве. Я работаю более 2-х лет, и мне очень нравится общаться с другими хранителями и волонтерами Ельни. Это очень интересные, преданные своему делу люди, у них есть чему поучиться.



**Наталья Вахний**,
хранитель Прибужского Полесья:

– Я с детства люблю природу, что и привело меня на биофак. Никогда не упускаю возможность передать свои знания, просветить людей: то школьникам что-то расскажу, то людям на станции, пока поезд ждем. Стараюсь использовать любую минуту, чтобы поведать о бережном отношении к природе. Последние десятилетия занималась исследованием флоры, в лесу провожу много времени. Очень люблю его и хочу, чтобы будущим поколениям передались наши богатства. Откуда черпаю силы работать каждый день? Так Природа и дает их мне.



**Александр Мялик**,
хранитель Выгонощанских болот:

– Быть хранителем – моя моральная обязанность. И в некоторой степени профессиональная как биолога. В 2009 году в журнале «Родная прырода» прочитал статью о том, что создается сеть хранителей, и тут же решил: надо. С тех пор и занимаюсь Выгонощанским. Когда говорю, что я хранитель, люди часто помогают, обращают внимание на какие-то детали. Некоторые хотят примкнуть к сообществу. Редко, но находятся люди, глядящие искоса: «Что вы тут ходите, высматриваете». Но таких мало.



**Анатолий Ловкис**,
хранитель лосося:

– Лосось идет на нерест недалеко от места, где я родился, поэтому мне интересен данный регион. Эта рыба здесь испокон веков, и я не хочу, чтобы она исчезла. Правда, сейчас мы занимаемся скорее сохранением генофонда, а хочется более масштабной работы. Тем более есть хороший пример соседней Литвы. Надеюсь, когда-нибудь и в Беларуси численность лосося увеличится. Я нахожусь в окружении экологически приятных людей, наши мысли и действия направлены на сохранение данного вида рыб. Для нас это важно, и нам нравится наша работа.

Виктория Терешонок, информационный сотрудник АПБ

# Павесь кармушку – выратуй птушку!

**Што вы будзеце рабіць 17-18 студзеня? Сябры АПБ ужо ведаюць свае планы на гэтыя дні: трэція выходныя месяца – акцыя "Птушкі ля кармушкі-2015"! Акцыя не толькі звяртае ўвагу на неабходнасць падкормкі зімуючых відаў, але і дае выдатную магчымасць у чарговы раз падзівіцца прыгажосці птушынага свету і падзяліцца сваімі назіраннямі і ўражаннямі з людзьмі, якія любяць прыроду. Далучайцеся!**

**6.847**

**6 847** – столькі птушак пачаставалі падчас акцыі ў мінулым годзе больш за 700 удзельнікаў. За выходныя на кармушкі завіталі птушкі 41 віду. Сярод цікавых назiранняў – малінаўка ў Брэсце і дзве берасцянкі ў Жодзіна. Ці павялічыцца колькасць падкормленых птушак у гэтым годзе, залежыць толькі ад нас з вамі. Запасайцеся кармушкамі, насеннем сланечніка і далучайцеся!

## Як прыняць удзел у акцыі "Птушкі ля кармушкі"?

1) Зрабіць кармушку (калі яе яшчэ няма).
2) Падлічыць віды і колькасць птушак на вашай кармушцы 17 і/ці 18 студзеня.
3) Адправіць назіранні ў АПБ адным з пералічаных спосабаў:
* праз анлайн-форму на сайце www.ptushki.org/forma2014
* паведамленнем на Facebook ці ВКонтакте
* даслаўшы ліст на info@ptushki.org

Абавязкова ўдакладніце, дзе знаходзіцца кармушка і які корм вы прапаноўвалі птушкам. Дзяліцеся сваімі фота і відэа! Магчыма, менавіта ваша праца стане сенсацыяй і вы зарыгіструеце рэдкі від на зімоўцы! А галоўнае, атрымаеце асалоду ад назірання за птушкамі, якія не застануцца галоднымі дзякуючы вашым намаганням!

**Карына Салавей, каардынатар акцыі:**
– Узімку, калі мароз ды снежныя завеі – звычайныя з'явы, дабыць сабе ежу няпростая задача. Менавіта у гэты час птушкам неабходна наша падтрымка. Калі няма магчымасці усталяваць драўляную кармушку, вельмі проста зрабіць яе з пластыкавай бутэлькі ці тэтрапаку. Галоўнае – адчуваць адказнасць і не спыняць падкормку на працягу зімы. Хто ведае, колькі з пернатых сяброў не перажыве ноч без жменькі насення сланечніка?





## Як зрабіць кармушку?

Самы просты спосаб – узяць пластыкавую бутэльку або пакунак з тэтрапаку (1 літр і болей) і выразаць два акенца адзін насупраць аднаго. Іх дыяметр не павінен перавышаць 8 см, інакш ежа дастанецца галубам ці буйным воранавым. Унізе варта ўсталяваць галінку, каб на яе можна было сесці. Яшчэ адна заўвага: каб птушкі не параніліся, лепш нарэзаць край махрамі і загнуць. Не забудзьцеся таксама зрабіць у дне некалькі прарэзаў, праз якія будзе сцякаць вада пад час раставання снега.

Як вешаць кармушку? Дастаткова прабіць у накрыўцы дзве адтуліны, працягнуць шнурок, завязаць на яго канцах вузельчыкі, каб атрымалася завеса. З яе дапамогай зручна ўсталёўваць кармушку на галіну дрэва ці за вакном.

# Зязюліны дыпломы

**На працягу 12 месяцаў у АПБ праводзілася шмат мерапрыемстваў, прысвечаных зязюлі – птушцы 2014 года. У межах кампаніі праходзілі мастацкія і літаратурныя конкурсы, паспрабаваць свае сілы можна было і ў конкурсе на лепшую метадычную распрацоўку. Самым папулярным стаў конкурс малюнкаў – увосень офіс АПБ нагадваў сапраўдную дзіцячую мастацкую студыю. Адкрыццё фінальнай выставы і ўзнагароджанне пераможцаў прайшлі ў сталічным кінатэатры «Кастрычнік».**

**Варта адзначыць, што кожная конкурсная праца – непаўторны мастацкі твор. Таленты і фантазія ўдзельнікаў уразілі журы. Аднак улічвалася і адпаведнасць біялагічным фактам з жыцця зязюлі. У выніку няпростага судзейства месцы размеркаваліся наступным чынам.**

**Лепшы малюнак**
1 месца: Марыя Сыракваш, 13 гадоў, ДУА «Гімназія № 19 г. Мінска»
Раман Рабцаў, 8 гадоў, ДУА «Гімназія № 19 г. Мінска»
2 месца: Алена Анкута, 16 гадоў, ДУА «СШ № 199 г. Мінска»
Ірына Астахава, 16 гадоў, ДУА «СШ № 23 г. Барысава»
3 месца: Анастасія Саўкова, 16 гадоў, ДУА «Гімназія № 3 г. Барысава»
«Лясная прыгажуня», Марыя Свісцельнік, 11 гадоў, ДУА «СШ № 20 г. Барысава»

**Лепшы мастацкі выраб**
1 месца: «Падкідыш», Кірыл Вялічка, 12 гадоў, ДУА «Сярэдняя школа № 16 г. Барысава»
2 месца: «Падкінула яйка ў чужое гняздо», Ілля Наумовіч, 11 гадоў, Студзія «Скарбонка», г. Салігорск
3 месца: «Зязюлька», Паліна Кістанава, 12 гадоў, ДУА «Вялікаўхалодская СШ Барысаўскага раёна»
3D-пано «Зязюлька», Ілля Гайдук, ДУА «Гімназія г. Іванава»

**Лепшы Комікс**
1 месца: Дзяніс Краснадубскі, 8 клас, ДУА «Слабадская СШ імя Гурыновіча»
2 месца: Аляксандр Іваноў, 9 гадоў, ДУА «Гімназія № 10 г. Гродна»
3 месца: Елізавета Юркевіч, 16 гадоў, ДУА «СШ № 6 г. Барысава»
Дзяніс Краснадубскі, 8 клас, ДУА «Слабадская СШ імя Гурыновіча»

**Лепшы прыродаахоўны плакат**
1 месца: Дар'я Гарашэвіч, 15 гадоў, ДУА «Гімназія № 1 г. Брэста»
2 месца: Кацярына Парфенюк, 15 гадоў, ДУА «СШ № 13 г. Слуцка»
Ніна Вялько, 13 гадоў, ПДіМ «Золак», гурток «Юны арнітолаг»
3 месца: Кірыл Крохін, 16 гадоў, ДУА «СШ № 8 г. Барысава»

**Літаратурны конкурс «Зязюля ў фальклоры»**
1 месца: Марына Рогава, 16 гадоў, ДУА «Зачысцкі вучэбна-педагагічны комплекс дзіцячы сад – сярэдняя школа Барысаўскага раёна»
2 месца: Аліна Давыдзюк, 5 клас, ДУА «Гімназія г. Іванава»
Павел Кузняцоў, ДУА «СШ № 12 г. Барысава»
3 месца: Паліна Санюк, 12 гадоў, ДУА «Азяранскі дзіцячы сад – сярэдняя школа»

**Лепшымі метадычнымі распрацоўкамі** абраныя конкурсныя праекты Вікторыі Шапаравай, студэнткі факультэта прыродазнаўства БДПУ імя М. Танка (класная гадзіна на тэму «Хто такая зязюля?») і Уладзіміра Дылеўскага з Віталем Чайко, навучэнцаў ДУА «СШ № 3 г. Нясвіжа (гульня «Перагортваючы кнігу прыроды. Зязюля – птушка 2014 года»).

**Спецыяльны прыз** сакратарыята АПБ за тое, што сочыць за міграцыяй зязюль, атрымаў Максім Сцяпура (праца «Зязюля ў Афрыцы», 8 гадоў, ДУА «Гімназія № 10 г. Гродна»).

Усем пераможцам дасталіся дыпломы і прызы ад АПБ. Калі вы не прысутнічалі на ўзнагароджанні, атрымаеце падарунак па пошце ці ад сваіх мастацкіх кіраўнікоў.

Вялікі дзякуй удзельнікам конкурсаў за адметныя працы, якія цудоўна адлюстравалі зязюлю, падкрэсліваючы яе характэрныя рысы і асаблівасці жыцця. А мы ў сваю чаргу абяцаем падрыхтаваць новыя конкурсы і цікавосткі да кампаніі «Птушка года 2015». Рыхтуемся маляваць вушатую саву!

Фота – Вікторыя Церашонак



"Зязюліны слёзы", Елізавета Басарановіч, 10 год, ДУА "САШ №200 г. Мінска"



Калектыўная праца вучняў 3 "А" класа СШ №9, Слуцк



Мяшчанская Ульяна, 8 год, ДУА "Гімназія №10", г.Гродна

Вопросы орнитологу

# Кто «пылесосит» голубей и чем кормить дубоноса?

**Мы честно собираемся, но никак не можем посчитать количество звонков в АПБ. Поэтому просто поверьте на слово: телефоны не умолкают ни на минуту! Чаще всего звонят именно по поводу птиц: одни увидели больных или раненых пернатых, другие переживают за здоровых, а третьи гоняются за совой. Некоторые обращения нас умиляют, а некоторые всерьез беспокоят. Своими ответами в традиционной рубрике «Вопросы орнитологу» делится специалист по природоохранным вопросам АПБ Семен Левый.**



**На кормушке явно не синица и не воробей – птица побольше, с блестящим клювом. Посмотрел в интернете – дубонос. Чем лучше их кормить? И можно ли вообще?**

Зимой мы рекомендуем подкармливать воробьиных птиц: это дает им дополнительные шансы перенести холода. Дубоносы предпочитают нежареные и несоленые (это важно!) семена подсолнуха.



**У нас в деревне ходит аист. На дворе ноябрь. Он улетит? Если нет, выживет ли птица в Беларуси?**

Скорее всего, аист уже не улетит. Шансы успешно перезимовать у него есть. Последние годы в Минске мы такое часто наблюдаем. В холодный период птицы держатся у незамерзших водоемов, крупных свалок мусора, где находят себе корм.

**Иду вдоль Свислочи, плавают утки. Крупы и морковки с собой, естественно, нет – только батон. Что лучше – покрошить его или вообще ничего не давать?**

Подкармливать водоплавающих птиц стоит только при морозе –15 градусов и ниже. Но даже самый сознательный человек не предоставит уткам или лебедям естественного для них корма – водных растений и мелких беспозвоночных животных. Десятки тысяч таких птиц ежегодно зимуют на незамерзающих водоемах Беларуси и не получают вообще никакой дополнительной подкормки. И успешно переносят низкие температуры. Так что лучше не вмешиваться в их жизнь.



**АПБ не первый год вешает спутниковые передатчики на кукушек, чтобы следить за ними. Планируете ли проводить подобные эксперименты с другими птицами?**

Метод спутникового слежения применяется для наблюдения за перемещением многих видов. Как правило, это крупные птицы: журавли, гуси, хищные пернатые. Им легче переносить дополнительный вес от передатчика. Пока у нас идет эксперимент только с кукушками, но надеемся, что АПБ в дальнейшем будет участвовать в проектах по спутниковому слежению за другими видами птиц.

**Очень хочу увидеть сову. Подскажите, куда идти и что делать.**

Из всех видов сов чаще всего встречается ушастая – птица 2015 года. Обитает она и в городах, где есть парки, скверы или окраины лесных массивов. В таких местах (особенно там, где есть ели или сосны) ушастые совы сейчас могут собираться на зимовку. На одном дереве порой встречается сразу несколько птиц. В целом, совы всегда ведут скрытный образ жизни, увидеть их непросто.

**По телевизору говорили, что голуби – разносчики инфекций, поэтому лучше избавляться от них в городах. Даже есть специальная машина, которая «пылесосит» их прямо с тротуаров. Это правда? (вопрос не придуман, такой звонок был!)**

Такой машины у нас нет. По данным эпидемиологов, в Беларуси не отмечено ни одного случая передачи заболеваний от диких птиц человеку. Так что не стоит винить в переносе инфекций голубей и других пернатых.

**Про лебедя хочу спросить. Ударили морозы, пруд заледенел. Как он теперь будет плавать? Мы с мужиками решили помочь, но он близко не подпускает. Мы и окружать пытались, и сетями ловить – не дается. Как его лучше перенести на соседний пруд?**

Многие лебеди остаются на зимовку у нас в стране на незамерзающих водоемах, которых в Беларуси много. При необходимости птицы могут перелететь на другой пруд. Обычно для этого лебедь разбегается по воде, но с таким же успехом может делать это и со льда, и с земли. Если у дикой птицы нет внешних травм (следы крови, выщипанные перья, вывернутое крыло), не нужно ее трогать и куда-то перевозить. Контакт с человеком – большой стресс для нее. Особенно когда человек не умеет с ней правильно обращаться. Инстинкт самосохранения никто не отменял, лебедь сам почувствует, где и как ему лучше зимовать.

**Спасибо за ваш интерес к птицам! Звоните или пишите в АПБ – самые интересные вопросы появятся на страницах следующего бюллетеня. И помните: не задает вопросы только тот, кто ничего не делает.**




Ахова птушак Бацькаўшчыны

АПБ з'яўляецца нацыянальным партнёрам BirdLife International, глабальнай асацыяцыі прыродаахоўных арганізацый




© АПБ, 2014 Інфармацыйны бюлетэнь ГА "Ахова птушак Бацькаўшчыны",
Галоўны рэдактар: Уладзімір Малашэвіч
Рэдакцыйная калегія: Віктар Фянчук, Аляксандр Вінчэўскі, Аляксей Цішачкін, Ганна Трафімчук, Вікторыя Церашонак, Мікалай Чэркас, Алег Кальчанка, Алеся Скідан
Карэктар: Маргарыта Мотарава
Верстка: Міхаіл Пракапенка

№ 2 2014 год
Рэгістрацыйны №726 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Наш адрас: © АПБ, 2014, вул. Парніковая 11, пам. 4, Мінск Беларусь
Тэл. (017) 263 06 13
Факс (017) 265 08 11

(029) 223 06 13 МТС,
(029) 101 68 87 (velcom).
E-mail: info@ptushki.org
Сайт: www.ptushki.org
Для карэспандэнцыі: а/с 306, Мінск, 220050, Беларусь
Дзейнасць ГА "Ахова птушак Бацькаўшчыны" падтрымліваецца Каралеўскім таварыствам аховы птушак (RSPB), партнёрам BirdLife International у Вялікабрытаніі.

Наклад паас.
Передрук дазваляецца пры ўмове спасылкі на Інфармацыйны бюлетэнь
Замова №